# Наша Свабода

№22(109) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 ЛЮТАГА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Тэледыверсія?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

У Мінску затрыманы два грамадзяніны, якія быццам бы займаліся крадзяжом аўтамабіляў разам з сынам экс-прэм'ера Аляксандрам Чыгіром. У мінулую сераду БТ паведаміла як пра факт, што нібыта затрыманыя прызналіся ў пастаўках крадзеных аўтамабіляў Чыгіру-малодшаму для разборкі на запчасткі і продажу на аўтарынку.

Між тым пакуль гэтыя звесткі больш падобныя на хлусню. Ва ўсялякім разе нават следчыя дагэтуль не пацвердзілі, што затрыманыя злодзеі сапраўды дзейнічалі разам з сынам экс-прэм'ера. Следчы Павел Алейнікаў, прыкладам, учора казаў мне: «Яшчэ ідзе разбіральніцтва, і ў нас пакуль няма звестак, што яны пастаўлялі аўтамабілі Аляксандру Чыгіру». Прозвішчы затрыманых трымаюць у сакрэце. Следчы толькі паведаміў, што абодва – грамадзяне Беларусі, што перыяд іх злачыннай дзейнасці ахоплівае недзе паўгода.

«Гэта тыповы почырк нашага тэлебачання – пракаментавала звесткі БТ Юлія Чыгір. — Няпраўда ідзе за няпраўдай, на гледача абрынуты вадапад ілжы. Сказалі ж, што сын гандляваў крадзеным, дык цяпер трэба пацвердзіць гэта сувязямі з сапраўднымі злачынцамі... Мы гэта ўжо праходзілі. Канешне, да выбараў яго ў турме пратрымаюць і будуць чапляць на яго што заўгодна, толькі каб заплямiць Міхаіла Чыгіра». ■

## Дзмітрыю Завадскаму – прэстыжную прэмію

Дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканння, чыя дэлегацыя 21 лютага адбыла ў Вену на паседжанне Парламенцкай асамблеі АБСЕ, маюць намер вылучыць кандыдатуру аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага ў якасці суіскальніка на атрыманне прэміі Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў галіне журналістыкі і дэмакратыі.

Гэтая прэмія ўручаецца з 1996 года. Сярод яе лаўрэатаў — Адам Міхнік (Польшча), Андрэй Бабіцкі (Расія) і іншыя вядомыя журналісты.

Віцэ-спікер Вярхоўнага Савета і лідэр АГП Анатоль Лябедзька перад адлётам у Вену заявіў, што «Дзмітрый Завадскі па праву з'яўляецца прэтэндэнтам на атрыманне высокай узнагароды. Для нас жа гэтае вылучэнне — яшчэ адна магчымасць прыцягнуць увагу міжнароднай супольнасці да дзвюх балючых тэм: знікнення палітычных апанентаў рэжыму і праблема свабоды слова ў Беларусі». ■

## Кожнай вёсцы – газету

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

Напрыканцы мінулага года на свет з'явіўся новы незалежны бюлетэнь – «Рэха Дзеркаўшчыны». Прыкметны ён тым, што выдаецца ў вёсцы. Дзеркаўшчына знаходзіцца на паўднёвым захадзе Глыбоцкага раёна Віцебшчыны. Заснавальнікам і рэдактарам новага выдання стаў Зміцер Курцэвіч. Друкуюць газету ў Наваполацку.

«Рэха Дзеркаўшчыны» мае наклад 200 паасобнікаў і аб'ём 4 старонкі. У нумарах – мясцовыя навіны, што зацікаваць жыхароў навакольных вёсак ды мястэчкаў, а таксама матэрыялы, што тычацца палітычнага становішча ў краіне. Знаходзіцца тут месца і прыватным абвесткам, і крыжаванцы. ■

# «Вясна» канстатуе пагаршэнне прававой сітуацыі на Беларусі


Фота Ул.ШЛАПАКА

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Прэзентацыя штогадовага даклада праваабарончага цэнтра «Вясна» прайшла 20 лютага ў памяшканні штаб-кватэры партыі БНФ. Гэта ўжо трэцяе мерапрыемства такога тыпу падрыхтаванае «Вясной». Асноўнай тэзай выступленняў прадстаўнікоў грамадскага аб'яднання і гасцей стала канстатацыя факту пагаршэння на Беларусі сітуацыі з правамі чалавека.**

Галоўнай прыкметай, матэрыяльным сведчаннем гэтага, кіраўнік праваабарончага цэнтра Алесь Бяляцкі назваў нязменнае павелічэнне агульнай колькасці старонак у дакладзе з году ў год. Так, два гады таму даклад утрымліваў 47 старонак, у мінулым годзе іх было ўжо 130, а цяперашні даклад дзякуючы дзеянням беларускіх уладаў дасягнуў 170 старонак.

Кіраўнік Грамадскага аб'яднання распавёў крыху пра перадгісторыю ўтварэння «Вясны», пра тое, як спачатку гэта была ініцыятыўная група па адсочванні сітуацыі з правамі чалавека, па зборы інфармацыі. Калі аб'ём працы ў сувязі з павелічэннем рэпрэсіяў пачаў нязменна павялічвацца, быў заснаваны цэнтр па прававой дапамозе пацярпелым ад парушэння іхных правоў. І цяпер проста выключаная сітуацыя, не можа быць выпадку, калі б чалавек за свае перакананні трапіў у турму і яму б не дапамаглі.

Найбольш працы, па словах Алеся Бяляцкага, за час існавання цэнтра далі рэпрэсіі супраць удзельнікаў акцыі «Дзень Волі» 25 сакавіка 2000 года, дзе агулам было затрымана пад пяцьсот чалавек, рэпрэсіі падчас кампаніі байкоту выбараў увосені мінулага года (затрыманых агулам больш за сто пяцьдзесят чалавек) і акцыя «Пераменаў» 12 лістапада 2000 года, калі быў затрыманы ледзь не кожны дзесяты малады чалавек з паўтары тысячы, што прыйшлі на акцыю.

Напрыканцы выступу спадар Бяляцкі выказаў спадзяванне, што на наступны год даклад, як мінімум, вернецца ў свой першачарговы стан прынамсі па аб'ёме старонак.

Запрошаная на прэзентацыю Юлія Чыгір распавядала апошнія навіны адносна разгорнутых вакол яе сям'і рэпрэсіяў. У прыватнасці, пра тое, як была сарваная гарадскімі ўладамі сустрэча Міхаіла Чыгіра з грамадскасцю горада Барысава, а супрацоўнікі міліцыі арганізатараў сустрэчы завялі адміністрацыйную справу.

Аб апошніх навінах з турмы ад Андрэя Клімава распавядала жонка палітвязня Тацця на Леановіч.

Валеры Шчукін вучыў прысутных, як трэба змагацца з парушэннямі правоў чалавека: «Я ўбачыў 14 лютага на акцыі – Лябедзьку ў машыну валакуць людзі ў цывільным – кінуўся пад колы, кажу, едзь праз мяне, альбо спачатку па закону складзі на месцы затрымання адміністратыўны пратакол. Альбо па справе са шклом, што разбілася ў памяшканні МУС, калі мяне там арыштоўвалі. Следчы днямі хацеў выпісаць мне падпіску аб нявыездзе, але я адказаў: вы што, думаеце, што я збягу? Не стану я падпісваць, саджайце, калі жадаеце. І што вы думаеце – не пасадзілі і падпіскі аб нявыездзе няма».

Калі ж больш падрабязна казаць аб самім дакладзе, то даволі зручным падаецца ўвядзенне ў яго раздзелаў, якія класіфікуюць прычыны пераследу. Ад затрыманняў за ўдзел у апазіцыйных вулічных акцыях да пераследу за веравызнанне і сексуальную арыентацыю. Асобна выдзеленыя гучныя справы па фактах доўгатэрміновых турэмных адсідак, знікненняў людзей. Героі даклада – усё тыя ж асобы, пра справы якіх цэлы год пісала незалежная прэса. Але не забытае і амаль нявіднае дробнае, не некалькі гадзін, затрыманне людзей нават за простыя налепкі.

Заканчваючы расповяд аб прэзентацыі хочацца паўтарыць словы Алеся Бяляцкага: маўляў, добра было б, каб гэты даклад у наступным годзе скараціўся, а затым і ўвогуле знік, разам са знікненнем парушэнняў правоў на Беларусі.

На прэзентацыю штогадовага даклада прысутнічаў запрошаны арганізатарамі пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Майкл Козак. ■

# З перспектывай «нулявога варыянту»

**Юрась КАРМАНАЎ**

У Вене 23 лютага распачынаецца паседжанне мандатнага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ, на якім павінна слухацца пытанне аб тым, хто будзе прадстаўляць Беларусь у гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыі: Вярхоўны Савет Беларусі 13-га склікання альбо дэлегацыя Нацыянальнага сходу.

Вярхоўны Савет у Вене прадстаўляюць дэпутаты Анатоль Лябедзька, вызвалены з-за кратаў Уладзімір Кудзінаў, камуніст Хоміч, а таксама прадстаўнік аб'яднанай грамадзянскай партыі Раманчук. Дэлегацыі палаты гэтым разам сфармаваная даволі цікава — у ейны склад сярод іншых увайшлі лідэрка беларускага «Яблока» Вольга Абрамава і так званы незалежны дэпутат палаты Уладзімір Навасяд.

Як паведаміў напярэдадні вылету ў Вену Анатоль Лябедзька, дэпутаты палаты вельмі моцна разлічваюць на падтрымку дэлегацыі Дзярждумы Расіі, якая зараз актыўна працуе ў якасці адваката афіцыйнага Мінска. Расейцы схіляюць на бок палаты дэлегацыі Казахстана, Кыргызстана і Таджыкістана.

Дэлегацыя Вярхоўнага Савета разлічвае на падтрымку заходніх краінаў. Паводле словаў Анатоля Лябедзькі, дэлегацыя Эстоніі нават змяніла свой першапачатковы склад, каб большасць складалі прыхільнікі Вярхоўнага Савета.

Пакуль назіральнікі не здольныя спрагназаваць вынікі паседжання сталага камітэта ПА АБСЕ, які запланаваны на 23-24 лютага, пасля паседжання мандатнай камісіі. Паводле Анатоля Лябедзькі, магчымы тры варыянты рашэння — статус дэлегацыі ВС будзе працягнуты; еўрапейцы адкладуць вырашэнне пытання на тэрмін пасля прэзідэнцкіх выбараў (што цалкам задаволіць Вярхоўны Савет); альбо трэці варыянт — Сталы камітэт ПА АБСЕ прыме так званы «нулявы варыянт», пры якім будуць спыненыя паўнамоцтвы дэлегацыі Вярхоўнага Савета, аднак палата гэтых паўнамоцтваў не набудзе. Гэта, паводле словаў Анатоля Лябедзькі, найгоршы варыянт. Разам з тым, дэпутат палаты Шпілеўскі заявіў, што «нулявы варыянт» будзе лічыцца перамогай афіцыйнага Мінска. ■

## НАВІНЫ

■ **20 лютага колішні рэктар Гомельскага медінстытута Юрый Бандажэўскі, які абвінавачваецца ў хабарніцтве, заявіў, што не прызнае сваёй віны.** Не прызнаюць яе і ўсе астатнія, хто праходзіць па так званай «справе Бандажэўскага». Хтосьці не прызнае сябе вінаватым зусім, некаторыя – часткова, прызнаючыся толькі ў пасярэдніцтве пры дачы хабару.

■ **На Беларускім тэлебачанні – кадравая перастаноўка.** Выконваючым абавязкі дырэктара дырэкцыі інфармацыйнага вяшчання прызначаны супрацоўнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Сяргей Булацкі. Займаўшы дагэтуль гэтую пасаду Аляксандр Ціцавец стаў на БТ генеральным дырэктарам замежнай карэспандэнцкай сеткі. Хоць аніводнага карэспандэнцкага пункта за мяжой БТ не мае.

■ **Па галоўных магістралях Беларусі ажыццяўляецца да 80% транзітных перавозак.** Аднак прыдарожны сэрвіс на іх нельга назваць дастатковым. Зараз забяспечанасць гатэлямі – 25% ад неабходнай колькасці, запраўкамі – на 30%, станцыямі тэхнічнага абслугоўвання – на 40%, пунктаў харчавання – на 45%. Што да бензакалонак, то бліжэйшым часам плануецца ўвесці ў дзеянне каля паўсотні новых.

■ **Падрыхтаваны ўказ, паводле якога будзе зменены механізм жыллёвага забеспячэння вайскоўцаў.** Ён прадугледжвае, што службовыя кватэры мусяць будавацца з дзяржбюджэту, потым праз 15 гадоў перадавацца вайскоўцам як жыллё па найме, а яшчэ праз 10 гадоў – ва ўласнасць. Дарэчы, зараз у арміі каля 8 тысячаў чалавек не маюць кватэраў.

■ **У Мінску створаны першы студэнцкі валанцёрскі клуб.** Ён арганізаваны грамадскай ініцыятывай «Фокус-Група» і факультэтам сацыяльнай педагогікі і практычнай псіхалогіі педагагічнага універсітэта. Напрамкі дзейнасці клуба — прафесійнае самаўдасканаленне студэнтаў і валанцёрская праца ва ўстановах для дзяцей-сіротаў.

■ **З 27 лютага па 2 сакавіка ў Мінску пройдзе міжнародная выстава «Ахова здароўя Беларусі».** Сваю прадукцыю прадставяць на ёй каля 200 фірмаў з двух дзесяткаў краінаў. Сярод экспанатаў – лекі, стаматалагічнае, аптычнае і самае разнастайнае лабараторнае і дыягнастычнае абсталяванне. ■

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1245**

# Генпрокурор России не может сказать, жив Дмитрий Завадский или нет

Агентство «Ю.С.Ньюс»
(www.yusnews.com)

Жив Дмитрий Завадский или нет? Вот как ответил на этот вопрос генеральный прокурор России Владимир Устинов: **«Я думаю, что расследование проводится прокуратурой Беларуси. Действительно, определенные следственные действия проводились по ее поручениям нашей прокуратурой. К сожалению, сейчас ответить однозначно на поставленный вами вопрос я не имею возможности, но то, что наши следователи здесь проводили, я думаю, тайны никакой не составляет. Если вас конкретно интересует, что было добыто нашими следователями, напишите, пожалуйста, на мое имя заявление – мы вам дадим конкретный ответ».**

На пожелание попросить белорусских коллег поживее расследовать дело Завадского российский генпрокурор отреагировал так: **«Я понял, понял»**.

Когда же В.Устинов услышал, что белорусские прокуроры ничего не сообщают и только выносят журналистам предупреждения, он сразу же спросил: **«О чем?»** Узнав, что предупреждения выносятся за разглашение тайны следствия, генеральный прокурор России **рассмеялся** в телефонную трубку.

Реагируя на пересказ интервью бывшего начальника контрольно-ревизионного управления министерства культуры Беларуси Александра Граева, который утверждает, что Александр Лукашенко уволил генпрокурора Олега Божелко за то, что оперативники по делу Завадского вышли на командира воинской части внутренних войск Дмитрия Павлюченко (у которого вроде бы нашли 120 тысяч долларов и 16 видеокассет с записями убийств), Владимир Устинов заявил: **«Я не готов вам сейчас прокомментировать действия президента Беларуси, потому что не в курсе событий — что там происходит. Но то, что касается совершения следственных действий на территории России, я думаю, что мы вам дадим исчерпывающий ответ»**.

На предложение отправить по делу сотрудника российской телекомпании Дмитрия Завадского запрос белорусским прокурорам в рамках «союзного государства» генпрокурор России ответил так: **«Они — суверенное государство и не могут отчитываться передо мной»**.

Таким образом, стало окончательно ясным правовое положение и значение «Союзного государства Беларуси и России». ■

# Раcколатыя часткі БНФ судзяцца

20 лютага Вышэйшы гаспадарчы суд спыніў вытворчасць па іску КХП- БНФ аб скасаванні рэгістрацыі грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэнне», бо яна нібыта «не адпавядае заканадаўству і парушае правы ўласнасці, грамадзянскія правы і інтарэсы істца». Паводле паведамлення прэс-службы БНФ, старшыня БНФ «Адраджэнне» і партыі БНФ Вінцук Вячорка такім чынам каментуе зварот Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі З.Пазьняка ў суд з іскам аб забароне руху называцца менавіта так:

– Партыя Пазьняка неаднаразова заяўляла, што змагаецца з акупацыйным рэжымам. І вось яна звяртаецца да таго самага акупацыйнага рэжыму, каб задушыць яго нымі рукамі свайго палітычнага канкурэнта... Звяртаецца, зазначу, напярэдадні выбарчае кампаніі, асноўны арганізацыйны цяжар якой ляжыць на нас. Крыху гісторыі. На 6 з'ездзе БНФ «Адраджэнне» і 4 з'ездзе Партыі БНФ у 1999 годзе было выбранае новае кіраўніцтва руху і партыі. Група, якая не пагадзілася з гэтым, утварыла новую партыю на чале з Пазьняком — Кансерватыўна-Хрысціянскую партыю БНФ. Новага грамадскага аб'яднання гэтыя людзі не ўтваралі, але прыхапілі з сабою яго ранейшае пасведчанне. Увосень 1999 года лукашэнкаўскія ўлады забаранілі афіцыйна ўжываць назовы «народны» і «нацыянальны» партыям і грамадскім арганізацыям. Каб захаваць рэгістрацыю, мы скарэктавалі назовы нашае партыі (Партыя БНФ) і грамадскага аб'яднання (БНФ «Адраджэнне»), пішучы іх толькі як скароты. Тое самае зрабіла і партыя прыхільнікаў Пазьняка — КХП-БНФ. Грамадскага аб'яднання ў іх не было, таму яны і нічога не рабілі. Усе тры суб'екты (два — нашыя, адзін — пазьняковскі) зарэгістравалі ў мінюсце. Але пазней, калі КХП відавочна пачала знікаць з палітычнага жыцця краіны, Пазьняк прыйшоў да высновы, што яму трэба мець і грамадскае аб'яднанне. Але стварыць новага не стаў, вырашыўшы знішчыць нашае. Але нават самы палітызаваны суд не можа задавоіліць гаспадарчую справу да разгляду, калі не існуе юрыдычная асоба скаржніка. А грамадскага аб'яднання Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне» няма ў рэестры міністэрства юстыцыі, бо яно скарэктавала назву год таму і стала называцца БНФ «Адраджэнне». Гэта мы і ёсць. ■

# Завершана інспекцыйная дзейнасць

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

22 лютага на тэрыторыі Беларусі завяршылася замежная інспекцыйная дзейнасць, якая ажыццяўлялася на працягу 13 гадоў у адпаведнасці з Дагаворам аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай далёкасці. У гэты дзень рэспубліку пакінула апошняя інспекцыйная група ваенных спецыялістаў ЗША, працаваўшая на працягу двух дзён на тэрыторыі былой аперацыйнай базы Ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння СССР у раёне Ліды.

Дагавор РСМД быў падпісаны ў Вашынгтоне 8 снежня 1987 года. Першы савецка-амерыканскі дагавор аб абмежаванні ядзерных узбраенняў, які прадугледжваў знішчэнне цэлага класа ядзерных ракет з радыусам дзеяння ад 500 да 5.500 км, уступіў у дзеянне ў жніўні 1988 года. У гэтым жа месяцы ў СССР былі ажыццёўлены першыя пускі ракет з мэтай іх ліквідацыі пад непасрэдным кантролем інспекцыйных груп з ЗША. У адпаведнасці з дагаворам трэба было ліквідаваць 809 савецкіх ракет сярэдняй далёкасці, у тым ліку 654 самыя новыя ракеты «Піянер» (СС-20) з трыма ядзернымі боегалоўкамі кожная, а таксама 155 больш старых ракет Р-12 і Р-14. Амерыканцы павінны былі знішчыць 440 ракет, у тым ліку аналаг СС-20 – «Першынг-2». Працэс знішчэння ракет, пускавых установак і іншай інфраструктуры быў поўнасцю завершаны ў траўні 1991 года.

У Беларусі як адной з правапераемніц СССР пад дзеянне Дагавора РСМД падпадала каля 30 аб'ектаў, на якіх у савецкія часы знаходзілася 313 ракет сярэдняй і 271 ракета меншай далёкасці. За прайшоўшыя 13 гадоў амерыканскія ваенныя спецыялісты правялі на тэрыторыі рэспублікі больш чым 140 інспекцыйных праверак, большая частка якіх была ажыццёўлена да распаду Савецкага Саюза. Пасля 1991 года інспекцыі праводзіліся ўсяго каля 20 разоў.

Дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай далёкасці з'яўляецца бестэрміновым, і завяршэнне інспекцыйнай дзейнасці не азначае заканчэння яго рэалізацыі. У адпаведнасці з гэтым дакументам і ў далейшым будзе дзейнічаць, у прыватнасці, забарона на вытворчасць РСМД, іх лётныя выпрабаванні, вытворчасць ступеняў і пускавых установак да ракет указанага класа. ■

БелаПАН

# Улады пачалі перадвыбарную агітацыю

БелаПАН

Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК) лічыць, што органы ўлады і падначаленыя ім СМІ фактычна пачалі перадвыбарную прэзідэнцкую кампанію, прычым з выкарыстаннем незаконных метадаў.

Менавіта так расцэньвае БХК зневажальныя выказванні шэрагу дзяржаўных СМІ ў адрас вядомага апазіцыйнага палітыка, магчымага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду Міхаіла Чыгіра ў сувязі з абвінавачаннем, прад'яўленым яго сыну Аляксандру. Апошні, як вядома, абвінавачваецца ў крадзяжы аўтамабіляў, якія потым разбіраліся на запчасткі і прадаваліся на аўтарынку. «Дзяржаўныя СМІ робяць спробу звязаць у грамадскай свядомасці палітычную дзейнасць апанентаў улады з крымінальнымі дзеяннямі, ствараючы іх негатыўны вобраз, — гаворыцца ў прэс-рэлізе БХК. – Адначасова з гэтым Беларускае тэлебачанне шырока тыражуе ініцыятывы па вядзенні здаровага ладу жыцця прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, які неаднаразова публічна выказваў намер балаціравацца на новы тэрмін».

БХК таксама звяртае ўвагу на тое, што дзяржаўныя СМІ ўжо аб'явілі Аляксандра Чыгіра злачынцам, чым парушылі канстытуцыйны прынцып прэзумпцыі невінаватасці.

БХК выказвае занепакоенасць адсутнасцю належнай рэакцыі на ўсе гэтыя незаконныя дзеянні з боку генеральнага пракурора, Дзяржкамітэта па друку і Цэнтрвыбаркама. ■

# Россия – партнер, которого нужно опасаться

Кондолиза РАЙС

Помощник президента США по национальной безопасности Кондолиза Райс дала первое после своего вступления в должность интервью. Эта темнокожая женщина шагнула в большую политику с университетской кафедры. Она сотрудничала с бывшим президентом США Джорджем Бушем-старшим. Кондолиза Райс считается специалистом по России. Именно ей вместе с государственным секретарем США генералом в отставке Колином Пауэллом надлежит вырабатывать и претворять в жизнь внешнеполитический курс США. В Вашингтоне ее уже окрестили «Киссинджером нового президента».



*— Как вы определяете свою роль в команде Буша-младшего?*

— Я бы сказала, что эта роль многогранная. Впрочем, эта многогранность доставляла мне в последние месяцы большое удовлетворение. По образованию и подготовке я специалист по Советскому Союзу и России. Я старалась информировать Джорджа Буша-младшего об эволюции этой страны и высказывала ему свое мнение о том, чего от нее можно ждать – хорошего и плохого – в ближайшее десятилетие.

*— Каков ваш диагноз?*

— Это ни для кого не секрет: я не одобряла политику администрации Клинтона в отношении России. Особенно это касается предоставления экономической помощи Москве в тот период, когда, как всем было известно, существовавшая там система была разъедена коррупцией и преступностью. Я не против того, чтобы поддерживать переходный период, но необходимо, чтобы со своей стороны русские ясно продемонстрировали свое желание продвигаться по пути реформ, какими бы трудными они ни были. Проблема состоит в том, что администрация Клинтона поддерживала столь привилегированные отношения лично с Борисом Ельциным, что забывала следить за тем, что происходит на уровне правительства и вообще в стране. И вот результат: представления Вашингтона оказались полностью искаженными.

*— Вы считаете, как и многие другие, что «Россия потеряна для Запада»?*

— По-моему, это бессмысленные разговоры, и я не желаю в них участвовать. Россия не потеряна ни для себя, ни для кого бы то ни было.

*— Какой будет, на ваш взгляд, политика Кремля в ближайшие годы?*

— Я полагаю, Россия будет все больше сближаться с арабскими странами, включая Иран. В конце концов такая политика приведет ее к отказу вносить свой вклад в усилия по сохранению мира.

*— Если послушать вас, вице-президента Дика Чейни и генерала Пауэлла, то складывается впечатление, что команда Буша решила по-прежнему считать Россию «империей зла». И это несмотря на то, что эта бывшая сверхдержава находится на грани краха и теперь уже не в состоянии угрожать Западу...*

— Я искренне считаю, что Россия представляет опасность для Запада вообще и для наших европейских союзников в частности. Ни они, ни мы еще не осознали в полной мере ту опасность, которую таят в себе ядерный арсенал и баллистические средства доставки Кремля. У нас есть все основания опасаться возможного распространения ядерной технологии из России.

*— Несмотря ни на что, не кажется ли вам желательным присоединение со временем России к NATO?*

— С 1996 года ведется диалог между Россией и NATO с целью в какой-то мере компенсировать расширение NATO в Центральную Европу. И вот результат: во время войны в Косово мы приглашали премьер-министра Примакова на каждое из наших заседаний, но в конце концов пришли к убеждению, что у него не было ни малейшего желания сотрудничать с нами!

*— Какие у вас еще опасения относительно этого гиганта?*

— Их экономика находится в таком состоянии, что я боюсь, что в случае новых потрясений русские возьмутся за иностранных инвесторов и обложат их непомерными налогами. Они на это способны! Я считаю, что они не представляют себе тех разрушительных последствий, к которым привело их решение о дефолте в 1998 году. Они не отдают себе отчета, что эта катастрофа может задержать их переход к рыночным отношениям на годы или даже десятилетия. Наша самая большая ошибка состоит в том, что мы полагали, что помощь Международного валютного фонда вкупе с частными капиталовложениями сможет преобразовать бывшую советскую Россию в страну с рыночной экономикой. Эта ошибка стоила нам где-то 50 миллиардов долларов. Эти деньги исчезли, испарились.

*— Чего вы ждете от Владимира Путина?*

— Что в ближайшие годы он начнет проводить реформы по всем азимутам. Да, действительно, я верю, что таково его намерение... Я убеждена, что в отношениях с Москвой мы должны поставить на первое место проблемы безопасности, начиная с ядерного разоружения. Затем идут вопросы экономических и политических реформ. Я не устану повторять, что сегодня главная угроза, нависшая над миром, исходит от загнанной в угол России в том смысле, что часть ее ядерного арсенала рискует попасть в «плохие руки», а именно государствам-изгоям или террористическим организациям. Поймите меня правильно: я считаю Россию нашим партнером, даже союзником. Но я также знаю, что в определенный момент ее интересы войдут в противоречие с нашими.

«Российская газета»

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**Ці святкуеце вы 23 лютага Дзень абаронцы айчыны (былы Дзень Савецкай Арміі)? Можа лепш было б замяніць яго на новае свята – Дзень мужчын і перанесці святкаванне на іншы месяц?**



**СЯРГЕЙ, інжынер-наладчык:**

– Пытанне даволі цікавае... Я, з аднаго боку, нарадзіўся ў той час, але, з іншага боку, я гэтага свята проста не ўспрымаю. А наконт пераносу даты святкавання – гэта трэба было рабіць, але трэба было рабіць своечасова. Зараз народ аморфны і гэтыя перамены не ўспрыме да добрага. Увогуле, я часта езджу ў камандзіроўкі і бачу, што толькі пэўная частка гарадскога насельніцтва гатовая да пераменаў падобных і іншых.



**ВІКТАР ПЯТРОВІЧ, палкоўнік у адстаўцы:**

– Абавязкова святкую, бо я ж ветэран. І ніякай розніцы няма, што гэта, Дзень абаронцы айчыны, альбо дзень чырвонай арміі. Для мяне гэта вельмі важнае свята, у нас гэта ў крыві, у старэйшага пакалення. У нас свая ідэалогія. Але ж магчыма маладыя да яго па-іншаму ставяцца.



**ВОЛЬГА, студэнтка лінгвістычнага універсітэта:**

– Не варта святкаваць дзень арміі, лепш сапраўды назваць свята Дзень мужчын і развесці яго з палітыкай, перанёсшы на іншую дату. Ды і армія ў нас зараз такая, што вось толькі святкаваннаў не хапае.



**МАТУГА АНТОН, радыёэлектроншчык:**

– Я святкую гэты дзень, хаця сапраўды, як вы кажаце, лепш бы гэта быў Дзень мужчын. Але няхай застанецца на гэтай даце, бо гэта ж традыцыя. Няхай сабе традыцыя і не асабліва слаўная. А ўвогуле большасць людзей гэта свята ўспрымае проста, каб павесяліцца, а што за свята – ім усё роўна.



**ДЗМІТРЫ, аўтаслесар:**

– Трэба святкаваць, канешне. Трэба аб'яднаць і Дзень мужчын у гэтым свяце і тое, што зараз – дзень ваенных. А мяняць дату не мае сэнсу, яна ўжо ўелася ў свядомасць людзей.



**МІКАЛАЙ ІВАНАВІЧ, пенсіянер:**

– Ну, я не ведаю. Усё роўна ж чалавеку трэба нешта святкаваць, таму і святкую. Можа Дзень мужчын было б і лепш. Я не гляджу на палітычную падаплёку даты, я думаю проста, што нешта ж заслугоўваюць нашы бацькі, сыны, тыя, хто нас абараняе. А на 23 лютага свет клінам, канешне ж, не сышоўся. Іншы дзень, дык іншы дзень.



**ВАСІЛЬ СНАПКОЎ, афіцэр запасу:**

– Я святкую гэты дзень, як дзень савецкай арміі, бо я ў ёй служыў у свой час, мой бацька там служыў. А Дзень мужчын няхай будзе ў іншы дзень, ніхто ж не супраць. Я не бачу тут праблемаў.



**ІРЫНА, лінгвіст:**

– Я ў гэты дзень віншую не ваенных, а мужчын, якія абараняюць нас, жанчын. Але я за тое, каб зрабіць свята ў іншы дзень, няхай будзе Дзень мужчын, як восьмае сакавіка, прыкладам, дзень жанчын. А гэты дзень пакінуць проста як дзень ваенных.

Апытвалі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)

# Дзяржава сілкуецца штрафамі

Ірына ШАНЦАВА

Гомельскі прадпрымальнік Таццяна Шырніна пакарана штрафам у памеры 8 мільёнаў 357 тысяч рублёў (больш за 7 тысяч долараў ЗША) з-за адсутнасці ў яе ўнутрыгарадской ліцэнзіі на перавозку грузаў. Сама ліцэнзія, дарэчы, каштуе толькі дзве мінімальныя зарплаты (каля 6 долараў).

У 1998 годзе, калі Таццяна стала прадпрымальнікам, яна атрымала ліцэнзію міністэрства транспарту і камунікацыяў на міжгародні перавозкі грузаў аўтамабільным транспартам. Прадпрымальнік заключыла дагавор аб супрацоўніцтве з адной з аптовых базаў Гомеля на дастаўку грузаў па вобласці і горадзе. Як і належыць, жанчына здала копіі ліцэнзіі ў падатковую інспекцыю па месцы жыхарства, штомесяц прадстаўляла туды свае справаздачы, спраўна плаціла падаткі, што за два гады склала звыш 800 тысяч рублёў.

Аднак абласная падатковая інспекцыя, правеўшы сёлета праверку дзейнасці прадпрымальніка Шырнінай, выявіла, што ў той няма ўнутрыгарадской ліцэнзіі, і пастанавіла спагнаць з жанчыны даход ад безліцэнзійнай дзейнасці і штраф, што ўвогуле і склала 8 мільёнаў 357 тысяч рублёў.

Таццяна Шырніна накіравала пракурору вобласці зварот, у якім зазначае, што яе дзейнасць кантралявалася раённай падатковай інспекцыяй і пытанне аб дадатковай ліцэнзіі ніколі не ўзнімалася. Жанчына заклікае да справядлівасці і чалавечнасці, указваючы на тое, што была паслухмяным падаткаплацельшчыкам, прыносіла даход дзяржаве, забяспечвала працай двух чалавек і адна выхоўвала дваіх дзяцей. «Пасля такога штрафу я зусім збяднею з-за 7,2 тысячы рублёў (кошт гарадской ліцэнзіі ў Гомелі. — БелаПАН)», — падкрэслівае прадпрымальнік.

БелаПАН

# Дзярждума Расіі спяшаецца ўвесці адзіны рубель

Аляксей АРЭШКА

Дзяржаўная дума Расіі ратыфікавала беларуска-расійскае пагадненне «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і аб фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы», унесенае на разгляд прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным. Пры неабходных для прыняцця рашэння 226 галасах «за» прагаласавалі 344 дэпутаты, «супраць» — 7, устрымаўся адзін.

Пагадненне прадугледжвае, што з 1 студзеня 2005 года расійскі рубель будзе выконваць функцыі адзінай грашовай адзінкі Саюзнай дзяржавы, а з 1 студзеня 2008 года будзе ўведзеная новая адзіная грашовая адзінка Беларусі і Расіі. Прадугледжанае таксама фарміраванне адзінага эмісійнага цэнтра, аднак да агульнага меркавання наконт яго функцыявання бакі пакуль не прыйшлі.

Варта зазначыць, што, згодна з заключэннем міністэрства юстыцыі Беларусі, дадзенае пагадненне супярэчыць дзеючай беларускай канстытуцыі. Як зазначае мінюст, у адпаведнасці з першым артыкулам згаданага пагаднення, з 1 студзеня 2005 года на тэрыторыі Беларусі ўводзіцца ў абарачэнне расійскі рубель, які будзе часова выконваць функцыю адзінай грашовай адзінкі Саюзнай дзяржавы. Аднак артыкул 7 таго ж пагаднення абвяшчае, што пасля падпісання асобнага міжурадавага пагаднення расійскі рубель, эміціруемы Цэнтрабанкам, стане адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Гэта азначае, што да ўвядзення ў абарачэнне грашовай адзінкі Саюзнай дзяржавы Цэнтральны банк Расійскай Федэрацыі будзе валодаць выключным правам эмісіі грошай на тэрыторыі Беларусі. Дадзенае палажэнне не адпавядае артыкулу 136 канстытуцыі Беларусі, згодна з якім выключным правам эмісіі грошай на тэрыторыі рэспублікі валодае Нацыянальны банк, нацыянальнай грашовай адзінкай у Беларусі з'яўляецца беларускі рубель, а ў наяўным абарачэнні выкарыстоўваюцца банкноты (банкаўскія білеты), эміціруемыя Нацбанкам.

Такім чынам, зазначаецца ў заключэнні мінюста, уступленне ў сілу дадзенага пагаднення магчымае толькі пасля ўнясення адпаведных паправак і дапаўненняў у канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

БелаПАН

ФОТАФАКТ



# Унутраны рынак няздольны купляць

Ірына САЗАНОВІЧ

У адпаведнасці з прагнознымі паказчыкамі, у 2001 годзе прадпрыемствы канцэрна «Беллегпрам», якія выпускаюць 85 працэнтаў прадукцыі лёгкай прамысловасці Беларусі, павінны забяспечыць рост аб'ёму вытворчасці на ўзроўні 103 працэнтаў, а тавараў народнага спажывання — 103,5 працэнта да 2000 года. Пра гэта паведаміў прэзідэнт канцэрна Уладзімір Дзямідаў на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Канцэрну ўдалося выканаць 8 з 9 прагнозных параметраў; аб'ём прамысловай вытворчасці склаў 103,2 працэнта да 1999 года, а тавараў народнага спажывання — 102,5 працэнта. Разам з тым прадпрыемствы не змаглі выйсці на запланаваны ўзровень рэнтабельнасці ў 23 працэнты; фактычна яна склала 15 працэнтаў.

Адсутнасць абаротных сродкаў на закупку сыравіны вымушае прадпрыемствы брацца за выкананне заказаў з давальніцкай сыравіны. Летась у галіне з давальніцкай сыравіны выраблена 26,6 працэнта прадукцыі.

Зніжэнне пакупніцкай здольнасці насельніцтва прывяло да таго, што 20 працэнтаў квот (ці 14 працэнтаў аб'ёму гадавой вытворчасці) засталіся невыкупленымі. 10 працэнтаў з іх удалося «перакінуць» за мяжу, а 3,8 працэнта тавараў папоўнілі складскія запасы.

Рост аб'ёму экспарту прадукцыі галіны склаў 120 працэнтаў; станоўчае сальда знешнегандлёвага балансу — 78 мільёнаў долараў ЗША. Пры гэтым 45 працэнтаў тавараў экспартавалася ў краіны далёкага замежжа, 55 працэнтаў — у Расію і іншыя краіны СНД.

Асоба выдзеліў кіраўнік канцэрна праблему цэнаў. За апошнія 10 гадоў індэкс росту цэнаў на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння ўдвая перавысіў індэкс росту цэнаў на прадукцыю лёгкай прамысловасці. Ніякіх эканамічных прэферэнцыяў лёгкая прамысловасць не мае; невялікія ўступкі дзяржавы ў гэтай сферы вяртаюцца насельніцтву шляхам зніжэння адпускной цаны на тавары, сцвярджае Дзямідаў.

Надзеі на 2001 год канцэрн звязвае не толькі з маркуемым ростам рэальнага пакупніцкага попыту беларусаў, але і з нарошчваннем паставак прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў на знешнія рынкі. «Унутраны рынак, калі будзе ажыўленне, мы здолеем забяспечыць», — сцвярджае прэзідэнт канцэрна «Беллегпрам».

БелаПАН

# Страхавы альянс ці аншлюс?

Аляксей АРЭШКА

Расійскае адкрытае акцыянернае страхавое таварыства «РЕСО-Гарантыя» набыло 33% акцыяў беларускага закрытага страхавога акцыянернага таварыства «Бролі», які мае двухмільярдны баланс і працуе на рынку краіны з 1994 года. Дакумент аб гэтым падпісалі на мінулым тыдні ў Мінску кіраўнікі гэтых дзвюх прыватных страхавых кампаніяў Сяргей Саркісаў і Віктар Лаўрусенка.

Віктар Лаўрусенка лічыць, што з прысутнасцю расійскага капіталу кампанія атрымала магчымасць умацаваць свае пазіцыі ў такім складаным бізнесе, як страхаванне. «РЕСО-Гарантыя» з гадавым абаротам сродкаў у 100 мільёнаў долараў сёння валодае таксама найноўшымі тэхналогіямі ў галіне страхавання.

Кіраўнікі кампаніі «РЕСО-Гарантыя» зазначаюць, што пакупка акцыяў «Бролі» — гэта альянс дзвюх рыначных структураў, а не спроба «авалодаць канкурэнтам з мэтай далейшага яго знішчэння». Гэты стратэгічна выверsucceeded крок азначае для «РЕСО-Гаранты» першы выхад за межы Расіі. Разам з беларускім партнёрам кампанія хутчэй прасунецца на заходні рынак страхавых паслугаў.

Варта зазначыць, што страхавое таварыства «РЕСО-Гарантыя», якое ўваходзіць у 'лік лідэраў расійскага страхавога бізнесу, мае ліцэнзіі на 40 відаў страхавых паслугаў і больш за 5 тысячаў страхавых агентаў.

Сёння ў Беларусі дзейнічаюць каля 40 страхавых арганізацыяў. Адной з асноўных праблемаў большасці з дзеючых у рэспубліцы страхоўшчыкаў з'яўляецца невялікі аб'ём актываў.

БелаПАН

# Калгаснікам зноў не выплачваюць заробкі

Валянціна КАЗЛОВІЧ

Старшыня Брэсцкага аблвыканкама Васіль Далгалёў аб'явіў вымову двум сваім намеснікам — Уладзіміру Сцяпанаву і Васілю Дваранiновічу. Падставай для гэтага паслужылі праблемы з выплатамі заработнай платы.

Даўгі за снежань на Брэстчыне склалі 590,5 мільёна рублёў. 102 з 112 суб'ектаў гаспадарання, што запазычыліся сваім работнікам, — калгасы і саўгасы.

У ліку тых, хто атрымаў вымовы, Уладзімір Сцяпанаў аказаўся таму, што прызначаны адказным за пагашэнне запазычанасцяў па зарплаце, а Васіль Дваранiновіч курыруе сельскагаспадарчую галіну вобласці.

Кіраўнік аблвыканкама прызначыў дату, калі павінны быць зробленыя канчатковыя разлікі за снежань, — 23 лютага. У адваротным выпадку да некаторых кіраўнікоў могуць быць прыменены больш жорсткія захады аж да вызвалення ад пасады.

БелаПАН

# ДНК: предсказание или Немезида?

Дороти НЭЛКИН,
профессор Школы искусств и естествознания в Университете Нью-Йорка

**На протяжении истории развития человечества шаманы и гадалки, мудрецы и ведьмы пытались предвидеть будущее и воздействовать на него. Сегодня к предсказаниям будущего присоединились генетики. Если ученые, как утверждается, смогут раскодировать генетический код и прочесть инструкции, они смогут подобрать ключи к человеческим заболеваниям и предсказать наши предрасположенности.**

На основе результатов исследований биотехнологические компании провели инвестирование в последующие технологии и разработали предсказывающие тесты для выявления лиц, у которых пока нет симптомов, но есть генетическая предрасположенность к растущему числу генетических заболеваний или более распространенным сбоям в организме (например, определенные виды рака). Некоторые ученые в действительности убеждены, что генетические тесты, в конце концов, помогут предсказывать тенденции поведения и личностные особенности, включая предрасположенность к психическим заболеваниям, гомосексуальности, наркомании, даже способности рисковать, застенчивости или религиозности. В сценариях будущего они обещают, что генетическая информация позволит осуществлять контроль даже над поведением.

Генный анализ может использоваться для определения обусловленности заболевания в здоровых людях, которые не имеют никаких причин опасаться, что им что-то угрожает. Генные анализы дают вероятностную информацию о предрасположенности человека к заболеванию, которым он может заболеть или не заболеть в будущем, они дают информацию, которая относится не только к будущему этого человека, но также к членам его семьи.

Некоторые люди надеются, что предсказывающая информация откроет возможности для терапии. Но даже если генетический анализ правильно предскажет, что кто-то находится на грани риска, от такого знания может быть мало или вообще никакой пользы. Несмотря на десятилетия обещаний, анализы становятся доступными задолго до появления способов терапии. С другой стороны, будучи однажды выявленной, генетическая предрасположенность к ослабляющему заболеванию, от которого нет лекарства, немедленно приведет к навешиванию на человека ярлыка и дискриминации.

Человек, «предрасположенный» к раку, скажем, может обладать биологическими качествами, которые повышают вероятность развития рака, но на действительное проявление болезни будут иметь влияние многие переменные. По своему социальному значению предрасположенность часто определяется как эквивалент самому заболеванию. В неклиническом контексте люди, имеющие риск заболевания, могут рассматриваться как заслуживающие другого отношения перед тем, как станет известно, разовьется в будущем это заболевание или нет. Неся в себе особенную предрасположенность к нарушению, они могут обозначаться как «люди с риском заболевания» и считаться неподходящими для нормальной деятельности.

Навешивание генетических ярлыков может создать «подкласс» людей, чьи гены станут обуславливать их дискриминацию. По этой причине многие люди, которые знают, что они имеют риск заболевания из-за истории семьи, предпочли не делать анализы. Среди людей, имеющих риск заболевания болезнью Нангтингтона, например, только 15 процентов с презрением отказываются от анализа, который даст определенный результат.

Таким образом, люди, рассматривающие возможность проведения генетического анализа, сталкиваются со сложными вопросами. Какой смысл иметь генетическую информацию о болезни, если нет возможности ее лечить? Должна ли здоровая женщина, которой поставили диагноз предрасположенности к раку груди, пройти профилактический курс мастектомии? Следует ли информировать детей и других членов семьи, которые также могут подвергаться риску? Какое есть возможности генетического контроля при планировании семьи? Устранение генетической обусловленности, в конечном счете, зависит от контроля над воспроизводством. Но политика выбора генов, которая может сократить бремя болезни, граничит с кошмаром евгенического контроля.

В то время как пациент сможет получить ограниченные преимущества или вообще никакой пользы от проведения анализа, другие возможно слишком заинтересуются управлением этим анализом. Предсказательная информация позволяет различным организациям сокращать затраты или увеличивать прибыль. Повышение затрат на здравоохранение и страхование, например, поощрит стремление страховых компаний отбирать тех, кто может иметь «невыгодную» болезнь, то есть болезнь, по которой нужно будет выплачивать компенсацию.

Погоня за выгодой вынуждает работодателей посылать рабочих на генетический анализ, чтобы определить, кто может быть наиболее продуктивным, а кто может быть склонным к болезни, которая, возможно, приведет к дорогостоящим претензиям на выплату компенсации. Компании, использующие токсичные материалы, хотят предвидеть, кто из рабочих может быть генетически чувствительным к выбросу токсичных веществ. Школы, транспортные станции, агентства по адаптации, ипотечные кредиторы, компании по трансплантации органов — все имеют заинтересованность в получении информации о генетической предрасположенности.

Но, прежде всего, к расширению генетического тестирования подталкивает давление со стороны индустрии биотехнологии, которая действительно получает прибыль от продолжения проведения анализов. В Америке ведется свыше 450 исследовательских программ по разработке генетического тестирования. Растет коммерческая заинтересованность, так как становится возможным провести анализ на предрасположенность к таким распространенным заболеваниям, как рак груди или сердечная недостаточность, где потенциальный рынок необъятен.

Анализ генетической предрасположенности является пересечением научных возможностей, экономических интересов, надежд и ожиданий потребителей. Возможность предсказать растущее число сложных и распространенных заболеваний поощряет проведение тестирования, но также создает этические дилеммы. Институциональный интерес к предсказательной информации, полученной из генетического анализа, вступает в противоречие с правами и интересами отдельных людей. Усилия по предсказанию предрасположенности к тому или иному поведению (как противопоставление заболеваниям) только усложняют эти противоречия.

Сегодня результатом генетического тестирования становятся вероятностные предсказания и неопределенная, неточная информация. Но даже если сделать предсказание, как нужно использовать эту информацию дальше? Сможем ли мы избежать создания генетического «подкласса»? Должны ли мы искать «генетические дилеммы» или способы ре-инжиниринга генов, которые мы передаем нашим детям? Поскольку мы стремимся добиться контроля над заболеванием, можем ли мы позволить себе устанавливать контроль над воспроизводством? Подобные вопросы будут становиться все более выпуклыми в свете обеспокоенности экономической эффективностью и сдерживанием затрат, которые обостряют усилия сегодняшних шаманов, прилагаемые, чтобы предсказать и оказать влияние на будущее в эту эру биотехнологии.

 



# Вспомнил про хоккей – потерял работу

**Владимир ДОВЖЕНКО**

В предыдущем номере НАШАЙ СВАБОДЫ было опубликовано интервью с телекомментатором БТ, автором и ведущим популярных телевизионных программ «Третий тайм», «Супергол» Алексеем Довалем, в котором он рассказал о конфликтной ситуации, сложившейся между руководством телерадиокомпании и им. Журналист словно предвидел, что его могут лишить в ближайшее время возможности делать передачи и выходить в эфир. Так оно и случилось. В понедельник любители спорта увидели его в последний раз (вот бы ошибиться!) в «Стадионе», темой которого было подведение итогов выступления белорусских биатлонистов на чемпионате мира. На следующий день Доваль и получил, что называется, «отлуп».



Алексея Доваля отстранили...

Что же так не понравилось главному редактору творческого объединения спортивных программ БТ Владимиру Шпитальникову больше: нелицеприятное для него лично интервью или нечто другое, допустим, действительно связанное с профессиональной деятельностью его подчиненного?

***– Алексей, каким же образом тебя уведомили, что ты отстранен от работы?***

– Во вторник на редакционной летучке мой непосредственный начальник похвалил меня за передачу и тут же объявил, что отстраняет меня от эфира за последние, последних нескольких фраз, которыми я закончил программу.

***– И что это была за «крамола»?***

– Что ему не понравилось конкретно, до сих пор не могу понять, но, судите сами, вот эта цитата: «Биатлон завоевывает все большую популярность в Европе. И огромное внимание уделяет ему телевидение. Тот же телеканал «Евроспорт» транслирует все этапы Кубка мира, не говоря уже о мировых чемпионатах.

Особняком здесь стоит наше родное белорусское телевидение, у которого были возможности без ощутимых расходов порадовать телезрителей серией трансляций с чемпионата мира в Словении, но решено было лишь ограничиться показом одной мужской эстафеты.

Понятно, что нашему президенту больше нравится хоккей, но согласитесь, что это еще не повод для того, чтобы проигнорировать чемпионат, где мы в числе самых лучших, в пользу второсортного хоккейного турнира, проходящего при пустых трибунах, где за матч наши хоккейные звезды могут произвести лишь по два-три броска по воротам соперника.

Остается надеяться, что когда-нибудь наступят другие времена и белорусских биатлонистов, которые так авторитетны в мире, будут уважать и на Родине».

Причина моего отстранения – в вышенаписанном. Возможно, резануло слух у Шпитальникова слово «президент»? У нас ведь привыкли к тому, что оно упоминается только в словосочетании «дорогой Александр Григорьевич» и любой другой вариант вызывает испуг, желание зарыть голову в песок.

На что главный редактор отреагировал: «Зачем ты трогаешь президента, хоккей, хоккеистов, да и к тому же критикуешь?»

***– Позволь мой комментарий. За разработку передачи «Стадион» Шпитальников получил, напомню, премию. К тому же у вас, на телевидении, извини, о президенте принято говорить почти как о покойнике: или хорошее, или – ничего....***

***Тем более в контексте, даже чуть-чуть негативном, его никогда не вспоминают. И не только на БТ, радио, но и во всех государственных СМИ. Такой вот выработался стереотип.***

– Я сказал то, что хотел сказать, придраться к этому пассажу, по-нормальному, просто невозможно.

***– В эфире ты показал сюжет с интервью с президентом национальной федерации биатлона, бывшим шефом КГБ Беларуси Владимиром Мацкевичем. Может быть, и это свою роль сыграло?***

– Почему? Он же говорил о биатлоне, подводил итоги выступления как руководитель федерации. Всего навсего. Григорий Федоров, президент белорусской федерации футбола, как известно, был снят с высокой должности министра авиации, но продолжает работу в БФФ, его видно на телевидении, фотографиях в газетах...

***– Выходит, как профессионал ты сейчас не востребован и по сути дела остался безработным.***

– Увы. Я все же хочу, чтобы реакция на эту конфликтную ситуацию со стороны первых лиц компании состоялась. Меня сейчас оставляют фактически без средств к существованию; семья, двое маленьких детей и вот так просто остаться только с зарплатой в двадцать тысяч. Хотя, по теперешней ситуации на телевидении – остаться на голом окладе, вполне нормальное явление. После смены руководства половина известных, авторитетных и опытных людей оказалась без работы.

***– Интересно, во время летучки кто-нибудь из твоих коллег возразил Шпитальникову?***

– К сожалению, нет. Его решения не принято обсуждать, главного попросту боятся.

Но после вашей первой публикации многие сотрудники телевидения благодарили, жали руки: «Молодец, смело, все это уже осточертело... Мы бы тоже могли написать и рассказать такое... Но нет возможности. А тебя поддерживаем!»

***– Ты подумал о том, что в данном случае нарушен трудовой кодекс со стороны администрации в отношении тебя?***

– А поможет ли обращение в судебные инстанции? Они ведь скорее всего поддержат не мою сторону, как обычно... Впрочем, определенные действия обязательно приму.

Я считаю себя правым, сдаваться не намерен, тем более уходить по собственному желанию, хоть они этого ждут. Даже если санкции против меня будут самыми суровыми. Надеюсь, придет время, когда мой труд будет востребован. ■

# Гэткая місія?

Адкрыты ліст Алене Ладуцька з «Беларускага» тэлебачання

**Юры СВІРКА**

**Дарагая Алена!**

Піша табе твой аднакурснік.

Ты, мажліва, нават не ўяўляеш сабе, як дорага ты каштуеш беларускаму народу ды беларускай мове.

Напярэдадні месіянскага даклада, пра які я нядаўна пісаў у НАШАЙ СВАБОДЗЕ, «Беларускае» тэлебачанне ў тваёй асобе раптам ненадоўга зноў загаварыла па-беларуску. Ты неяк здолела ўспомніць тую мову, пра якую нядаўна зусім забылася. Хаця твой любімы тэлегерой Аляксандр Лукашэнка нават Івана Шамякіна віншаваў з юбілеем па-руску. А ў гэтых выпадках БТ асвятляе дзейнасць правадыра «на мове першакрыніцы».

Натуральна, твая мова была беларускаю не толькі часова, але і часткова. Бо не верыцца, што сп.Шамякін «падзякаваў кіраўніка дзяржавы».

А сам кіраўнік на чыста канкрэтна культурнай нарадзе сказаў, што ў Беларусі існуе свой «рускі язык». На жаль, яму ніхто не патлумачыў (як і табе), што гэтае слова па-руску трэба вымаўляць «йізык», а не «йазык». Бо інакш гэта ўсяго толькі акцэнт, а не мова.

Мажліва, мясцовы «языковы» (па-руску правільна будзе «языковой»! — **Ю.С.**) уплыў недаацэньваюць. Увечары пасля культурнай нарады тваё тэлебачанне паказала справаздачу з гэтага мерапрыемства, у тым ліку частку прамовы Мікалая Губенкі. Былы міністр культуры (!) СССР сказаў з трыбуны ў мінскім Палацы Рэспублікі: «Двухтысячнопервый год». І на тваім БТ шмат хто не ведае, што правільна вымаўляць «дзве тысячы першы».

Але нагадаю пра канец двухтысячнага. Можа ты, Алена, памятаеш, што апошняе пытанне пану Лукашэнку пасля таго, як ён прагаласаваў 29 кастрычніка на сваім участку, задаў я: «Чаму Беларускае тэлебачанне ўсё больш пераходзіць на рускую мову, а пра вас дык зусім забаранілі распавядаць па-беларуску?»

Ты ж была там, у Акадэміі фізічнага выхавання каля знакамітых Драздоў, і не магла не пачуць адказ Аляксандра Рыгоравіча:

«Пра мяне па-беларуску? Ведаеце, гэта нешта новае, па-першае. Па-другое, канцэптуальна мова ішла так — калі, напрыклад, эпізод нейкі ідзе на рускай мове, дык пажадана і каментаваць яго на рускай мове. Але не абавязкова — гэта справа журналіста».

Лукашэнка заявіў таксама, што калі журналіст можа ды хоча каментаваць на рускай мове, напрыклад гэтую ж імправізаваную прэс-канферэнцыю, дык — «калі ласка, каментуйце па-руску, каментуйце па-беларуску».

Але пан Лукашэнка дадаў: «Хаця зноў жа, не хачу крывіць душою, я заўважыў, можа быць, нейкі перакос. Мы дапусціць гэтага не павінны. Усё ж такі ў нас руская, беларуская мова маюць роўныя правы. І сёння ўшчамляць беларускую мову таксама нельга. Таму што вось гэтыя крайнасці заўжды вядуць да іншых крайнасцяў».

Паводле ягоных словаў, куратарам тэлебачання з'яўляецца кіраўнік адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч, а ніякіх указанняў пераходзіць на рускую мову не было. На маю заўвагу, што гэтыя ўказанні даў асабіста старшыня Белтэлерадыёкампаніі Віктар Чыкін, пан Лукашэнка адказаў: «Не, Вы на Чыкіна не валіце — ён гэтыя рэчы не вызначае, і ён ніколі на гэта не пойдзе. Ніколі. Тым больш, я ведаю ягоную пазіцыю. Відавочна, усё ж гэта звязана з тым, што многія, мы з вамі і журналісты, усё ж такі **на нашай сакавітай беларускай мове дрэнна размаўляем**», — самакрытычна заўважыў пан Лукашэнка, прамовіўшы выдзеленыя словы не па-руску, як усё астатняе ў той дзень, а па-беларуску.

А яшчэ ён распавёў, што адзін з кіраўнікоў Беларускага тэлебачання Аляксандр Дамарацкі вельмі прасіў яго: «Аляксандр Рыгоравіч, Вы нам дазвольце запатрабаваць ад журналістаў добрай беларускай і добрай рускай». «Добра можаш гаварыць на беларускай мове — калі ласка, вядзі рэпартаж. Не можаш — ну дык не заікайся ў эфіры. Я ведаю, што рыхтуецца вельмі шмат і дыктараў, і журналістаў новых, якія цудоўна ведаюць беларускую мову, і ў бліжэйшы час вы гэта ўбачыце. Але, відаць, вы маеце рацыю, зрабіўшы такую выснову. Таму што я таксама заўважыў, што ёсць некаторыя моманты, калі з'яўляецца больш рускай мовы. Хаця я не хачу надаваць гэтаму ніякую надзвычайную палітызаванасць. Гэта абсалютна рэгулюемае пытанне», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Магчыма, пасля гэтых словаў БТ адрэгулявалі, ды толькі на пару дзён. У апошнім начным выпуску навінаў 29 кастрычніка пра пана Лукашэнку распавялі па-беларуску. Нават «Панарама» тады распачалася сюжэтам пра ягоны візіт у Лівію, які Аксана Чайка таксама зрабіла на беларускай мове.

А ты, Алена, пра ягоны першы дзень у Лівіі распавядала адтуль тэлефонам па-руску.

Навошта ж тады дзяржава плаціла зарплату Міколу Рыгоравічу Каваленку, які выкладаў нам з табой беларускую на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта? Ты ж мусіш адпрацоўваць народныя грошы, пацвярджаючы, што яны не былі змарнаваныя.

Нядаўна супрацоўнік радыё «Рацыя» Віктар Мухін патэлефанаваў табе ды пацікавіўся, чаму ты робіш свае рэпартажы не па-беларуску. І ты адказала, што тэксты сюжэтаў пра Лукашэнку пішаш па-руску, бо гэтак табе хочацца:

«Право журналиста, наверное, на каком языке делать материалы. Мы делаем так, как считаем нужным, я думаю — это наше право. Когда как получается. Думаю, што я моваю валодаю дастаткова добра».

Дзіўна толькі, што раней табе па-руску пісаць не хацелася. Ні на Беларускім радыё, дзе ты працавала ў даволі прагрэсіўнай рэдакцыі «Крыніца», ні нават у блочнай «Панараме», дзе ты вяла па чарзе з Дуразмётавым блок міжнародных навінаў. Жаданне перайсці на рускую неверагодным чынам супала ў цябе са жнівеньскім загадам па АТН паведамляць пра Аляксандра Лукашэнку толькі па-руску.

Алена! Ты хочаш, каб твая роля на БТ засталася ў гісторыі як русіфікатарская?

Ці ты сапраўды лічыш, што ў данясенні з тэлеэкрана да народных масаў рускай мовы замест беларускай і палягае твая жыцёвая місія?

Гэткая місія – дурная місія. ■

# Любіш сваё дзіця – асцерагай яго

## Азбука для бацькоў: як выглядаюць наркотыкі

**Марыхуана** (слэнг:*блант, зелле, траўка, грас, марыха, джойт, афган, калумбійка, скун, гандза, фіфа, крак, самасад, самасейка*). Выгляд: карычнева-зялёнае лісце, сумесь сухога лісця і суквеццяў, нагадвае маяран альбо мятую пятрушку. Ужыванне: найчасцей паляць у выглядзе папіросаў. Аксэсуары: невялічкія пакеты з фальгі, гільзы (як для набіцця папіросаў ці скручаныя з паперы, як трубкі для палення), папіросная папера для самакрутак.

**Гашыш** (*грудка, груда, пласт, пластылін, шакаладка, грам, афган, калумбійка*). Выгляд: карычневыя і чорныя шарыкі ці кубікі, тонкія пласцінкі, можа быць чырвоны ці зялёны – усё залежыць ад краіны паходжання. Ужыцце: найчасцей гашыш паляць, можа таксама дадавацца да печыва. Аксэсуары: маленькія трубкі для палення.

**Гашышны алей**. Выгляд: зялёна-карычневы алей, вязкі, прадаецца ў малых ампулах ці ў пакеціках, падобных на падушачку. Ужыцце: найчасцей як дадатак да цыгарэтаў ці самакрутак з марыхуанай.

**Амфетамін, метаамфетамін** (*парашок, спід, сотка, амфа*). Выгляд: белы ці бежавы парашок, таблеткі, капсулы. Ужыцце: прымаецца ўнутр, а таксама ўпырскваецца ў нос ці ўцягваецца праз нос. Аксэсуары: маленькія пакецікі з фальгі, іглы, шпрыцы, алюмініевая фальга, закопчаныя лыжачкі.

**Грыбы-галюцынагены**. Выгляд: рознага віду сушаныя грыбы ад жаўтаватага да чорнага колеру з карычневымі прасвятленнямі. Ужыцце: унутр — і сушаныя, і сырыя.

**Дурман** (*белунь, шалей*). Выгляд: высокая расліна з белымі варонкападобнымі кветкамі, дужым лісцем, калючымі пладамі. Ужыцце: ядуць.

**Героін** (*гера, парашок*). Выгляд: парашок (ад белага да бежава-карычневага колеру), часам пахне, як воцат, мае горкі смак. Ужыцце: уводзіцца шпрыцам. Аксэсуары: шпрыцы, іглы, малыя пакецікі з фальгі.

**Героін –*brown sugar***. Выгляд: жвір ці гранулы бежавага, шэрага, часам чорнага колеру.

**Героін польскі** (*кампот, тавар, стрэл, сантыметр, порцыя, дзялянка*). Выгляд: вадкасць ад светлага да цёмна-карычневага колеру з адчувальным салодкім пахам і горкага смаку. Ужыванне: уколы. Аксэсуары: іглы, шпрыцы.

**Макавара** (*суп*). Выгляд: выцяжка з макавай саломкі з колерам чорнай кавы, вельмі горкага смаку. Ужыцце: унутр. Аксэсуары: слоікі з рэштkамі бурага рэчыва.



**Опіум** (*пудра, трубка, порцыя*). Выгляд цёмна-карычневыя камочкі ці парашок. Ужыцце: паленне ў спецыяльных трубках, часам прымаецца ўнутр у выглядзе настою. Аксэсуары: трубкі для палення.

**Морфій**. Выгляд: крышталікі, белы парашок, таблеткі ці вадкасць у ампулах. Ужыцце: унутр ці ўвядзенне шпрыцам, часам удыхаюць пары пры інгаляцыі. Аксэсуары: іглы, шпрыцы, ампулкі.

**Крак** (*кісялёк, мармеладка*). Выгляд: разнавіднасць какаіну – жвір белага, бежавага ці карычневага колеру. Прадаецца ў невялікіх пластыкавых флакончыках ці пакеціках з фальгі. Ужыцце: паляць у трубках. Аксэсуары: маленькія флакончыкі, алюмініевая фальга.

**Экстазі** (яшчэ мае назвы ад сімвалаў на таблетках — Мітсубусі і да т. п.). Выгляд: белыя ці каляровыя невялікія пласцінкі з выціснутымі ўзорамі, а таксама парашок, капсулы. Ужыцце: унутр.

**Хімія**. Выгляд: бензін, клеі, растваральнікі, газ для запальнічак. Ужыцце: удыханне пароў. Аксэсуары: цюбікі ад клею, пласцікавыя пакеты са слядамі клею, насоўкі, насычаныя клеем.

**Лекі для супакою і ад бяссонніцы** (*барбітураты, азефіны*). Выгляд: таблеткі, вадкасць. Ужыцце: унутр ці ўвядзенне шпрыцам пасля растварэння. Аксэсуары: упакоўкі ад лекаў, іглы, шпрыцы, ампулы. ■

**Gazeta wyborcza**

***Парада бацькам**: калі вы чуеце ў тэлефонных размовах вашага сына ці дачкі словы, якія выдзеленыя ў гэтым тэксце, і тым болей, калі вы бачыце сярод рэчаў вашага дзіцяці тое, што тут акрэслена як аксэсуары, адчуйце трывогу і выкажыце бацькоўскі клопат. Магчыма, вашае дзіця ўжо ідзе па шляху да наркатычнай залежнасці.*

# З опіуму на героін

Юбілейны год засведчыў далейшы рост ужывання наркотыкаў у Еўропе, асабліва — какаіну. Галоўнай краінай, праз якую гэты наркотык трапляе ў іншыя дзяржавы Еўрапейскага Саюза, стала Іспанія. Адпаведна ўзрослшаму попыту сярод маладых еўрапейцаў вялікім патокам плыве да іх марыхуана. У сваю чаргу наркадзялкі з еўрапейскіх краінаў сталі буйнымі пастаўшчыкамі ў іншыя рэгіёны свету амфетамінаў і розных іншых сінтэтычных наркотыкаў. У ЗША і Канадзе кожны год расце спажыванне наркотыка «экстазі».

Міжнародны савет па кантролі за наркатычнымі сродкамі (МСКНС) пры ААН падкрэслівае тэндэнцыю распаўсюджвання седатыўных прэпаратаў у Еўропе, у той час як насельніцтва ЗША аддае перавагу стымулятарам. Седатыўныя сродкі выкарыстоўваюцца для падаўлення пачуцця непакою, а таксама супраць бяссонніцы. Стымулятары выкарыстоўваюцца галоўным чынам для барацьбы з лішняй вагой. Аднак, і тыя, і тыя прапараты часта правакуюць злоўжыванне іншымі рэчывамі, якія пастаўляюцца нелегальна на рынак наркотыкаў.

МСКНС у сваіх справаздачах выказвае заклапочанасць узрослым выкарыстаннем інтэрнэта для незаконнай рэкламы і продажу рэчываў, якія павінны праходзіць наркалагічны кантроль. У сувязі з гэтым МСКНС заклікае ўрады ўсяго свету перагледзець сваё заканадаўства ў адносінах да наркотыкаў і ўзмацніць перашкоды на шляхах гандлёвай дастаўкі наркатычных сродкаў.

Штодня вялізныя партыі наркотыкаў ідуць сваімі патаемнымі шляхамі, вышукваюы новыя ахвяры. Пра памеры гэтага бізнесу сведчыць апошняе затрыманне партыі наркотыкаў у Іране на мяжы з Пакістанам. Група наркакантрабандыстаў перавозіла 4 тоны гераіну.

Гандаль гераінам пашырыўся пасля нядаўняга росту цэнаў на опіум на чорных рынках. Сёння кошт адной порцыі гераіну складае 25 амерыканскіх цэнтаў. ■

 

